# ПАГОНЯ

Чацвер
6 ліпеня 2000 г.
№ 24 (471)
Кошт 70 рублёў


## Ствараецца кааліцыя дэмакратаў

**На сёння прызначана падпісанне ў Гродне пагаднення паміж мясцовымі партыйнымі арганізацыямі. У ім будзе агучана пазіцыя партыяў Гарадзеншчыны ў дачыненні да восеньскіх парламенцкіх выбараў. Плануецца стварэнне кааліцыі БНФ «Адраджэньне», АГП, БСДГ, БСДП (НГ).**

Як адзначыў ініцыятар падпісання пагаднення старшыня абласной арганізацыі БНФ Мікола Баўсюк, «мы не возьмем удзелу ў выбарчым лукашэнкаўскім фарсе. Аднак мы павінны кожны дзень быць падрыхтаваныя да сапраўдных дэмакратычных выбараў».

**Павал Мажэйка**

## Энцыклапедыя ад Алеся Валковіча

**Створана мультымедыйная энцыклапедыя Гродна. Яе аўтар - адзінаццацікласнік сярэдняй школы № 13 абласнога цэнтра Аляксандр Валковіч.**

Ён сабраў і сістэматызаваў звесткі пра важнейшыя аспекты сучаснага жыцця і гістарычнае мінулае горада. Тэкставую інфармацыю суправаджае відэарад. Дастаткова выбраць месца на карце Гродна і націснуць на клавішу, каб атрымаць на маніторы камп'ютара адпаведную відэавыяву ды інфармацыю. Уся камп'ютарная энцыклапедыя змясцілася на адной дыскеце. З яе дапамогай можна атрымаць звесткі пра гісторыю горада над Нёманам, памятныя мясціны, вядомых асобаў, імёны якіх непарыўна звязаны з Гроднам, месцы адпачынку гараджанаў ды іншую карысную інфармацыю.

**Ася Куніцкая**

## Мёртвы гадзіннік

**Ужо з месяц не працуе гадзіннік на будынку гарадзенскага Галоўпаштамту.**

Калі стрэлкі спыніліся, механізм са сцяны знялі. Выявілася, што выбілася нейкая шасцярэнька. У вытворча-тэхнічнай лабараторыі адрамантаваць яе не здолелі, а на новую грошай не хапіла. А тут акурат надышоў час галоўнаму інжынеру ісці ў адпачынак. Таму няспраўны механізм зноўку засунулі ў сцяну - каб дзіркі не было.

- Павесілі на сваю галаву! - наракае намеснік дырэктара Галоўпаштамта Віктар Хаціневіч. - Як раптам гадзіннік псуецца ці недакладны час паказвае, то пачынаюць на нас скаргі сыпацца: маўляў, з-за вашага гадзінніка на працу спазніўся!..

Мёртвы гадзіннік на адной з самых ажыўленых вуліцаў горада паказвае палову на восьмую. Праца скончылася! А мо не пачыналася?..

**Юлія Дарашкевіч**

## Культуры стане больш

**Гарвыканкам Гродна даў дазвол на будаўніцтва ў горадзе культурна-асветніцкага цэнтра Саюза палякаў на Беларусі.**

Цэнтр будзе ўзведзены побач з Домам палякаў, на месцы аднапавярховага драўлянага будынка, дзе жывуць дзве сям'і, якія атрымаюць іншыя кватэры. Сродкі на гэтыя мэты і будаўніцтва цэнтра выдаткоўваюцца Рэспублікай Польшча. У новым будынку плануецца размясціць, у прыватнасці, кінаканцэртную залу, бібліятэку польскай кнігі, класы для вывучэння польскай мовы, памяшканне для рэпетыцыяў калектываў мастацкай самадзейнасці. Пачатак будаўніцтва прызначаны на лета 2001 года.

**Ася Куніцкая**




7, 8 ліпеня - пераменная воблачнасць, месцамі - ападкі, вецер няўстойлівы, слабы 3-5 м/с. Тэмпература паветра 7 ліпеня - уначы +10...+15, удзень +17...+22; 8 ліпеня - уначы +12...+16, удзень +18...+22.




# Засталося спадзявацца толькі на дружыннікаў

**Мясцовыя сродкі масавай інфармацыі актыўна распрацоўваюць тэму рэанімацыі былых народных дружынаў. Памятаеце, у часы развітога сацыялізму па вуліцы хадзілі чародкі людзей з чырвонымі павязкамі на рукавах і заклікалі да парадку хуліганаў, п'янтосаў ды іншых парушальнікаў вызначаных партыяй нормаў маралі. Добра забытае старое вяртаецца...**

Дэпутаты гарадскога Савета нядаўна з жалем канстатавалі, што колькасць праваапарушэнняў павялічваецца. Няшчаснай міліцыі патрэбна дапамога з боку грамадскасці. Без падтрымкі законапаслухмянага жыхара Гродна праваахоўныя органы, маўляў, не ў стане справіцца з валам крадзяжоў, рабаўніцтваў, згвалтаванняў і г.д.

Чытаеш вось такія «откровения» галоўнага спецыяліста гарадскога Савета дэпутатаў В.Беламызава (**«Гродзенская праўда» ад 24 чэрвеня**) і разумееш, што «вертыкаль» прылюдна распісваецца ў сваім бяссіллі. І заводы яны «запусцілі», і заробак простаму чалавеку «забяспечылі», і марцыпанамі «накармілі». Для поўнага шчасця прапагандысты рынкавага сацыялізму заклікаюць народныя дружыны. Гарадской міліцыі ўжо не хапае. Паглядзіце, як сяржанты і старшыны, люляючы ў руцэ гумовыя дубінкі, прагульваюцца пад вечар па гораду. Іншая група цягне за сабою сабаку, нібыта выбралася на паляванне ці аблаву. Блішчаць прычэпленыя да рэменя кайданкі, пагрозліва пагойдваецца кабура з табельнай зброяй. Ідуць абаронцы нашага шчаслівага мірнага жыцця. На Захадзе паліцыянта на вуліцы не пабачыш без патрэбы, а ў нас - як па парку прагульваюцца, штодзённа мацыён робяць. А калі мітынг які апазіцыя задумае, то так шчыльна абступяць, не дыхнуць...

Так і хочацца прапанаваць уладарам нашага жыцця: азірніцеся, спадары-таварышы, паглядзіце, колькі лайдакоў у міліцэйскай форме мучыцца без справы ў вестыбюлях дзяржустаноў, вартуючы ваша спакойнае праседжванне штаноў з ранку да вечара. Людзі ў пагонах знайшлі сабе бяспечныя хлебныя месцы ў прыватных і камерцыйных крамах, ахоўваючы золата і срэбра ад магчымых рабаўнікоў. Заўважце, не людзей яны ахоўваюць, а метал. Мабілізуйце гэтых небаракаў на барацьбу са злачыннасцю, і не трэба будзе ім калом стаяць каля дзвярэй магазіна з выглядам цэрбера. Хутка яны і хадзіць развучацца, а не тое, што бегаць за бандытамі. Людзі не сляпыя, усё бачаць. І адпаведна ставяцца да ўлады.

Карацей, ствараюцца пазабюджэтныя фонды для ўтрымання новых грамадскіх фармаванняў. З дружыннікамі кіраўнікі прадпрыемстваў абавязаны заключыць дамову на аплаце таго часу, якое будзе адведзена патруляванню вуліцаў. Адна гадзіна «працягне» 0,5 стаўкі мінімальнага заробку, а ён цяпер раўняецца 2.600 рублёў. Пашэндаюцца дзецюкі, крыху ногі разамнуць - і, глядзіш, нейкая капейчына набяжыць. Не думаю, каб такому марнаванню грошай былі ўзрадаваныя дырэктары прадпрыемстваў, і тым болей працоўныя калектывы. Але першым загадана, а другія прамаўчаць, «каб чаго горшага не здарылася». Хаця кожны разумее, што гарсавет не дасць ні рубля, утрыманне «воинства» ляжа на плечы рабочых. Ад пабораў на патрэбы дружыннікаў вызваляюцца толькі бюджэтныя ўстановы. Усе астатнія вымушаныя адлічваць у мэтавыя раённыя фонды 0,1 мінімальнай аплаты працы ад колькасці працуючых.

Што гэта дасць грамадству? Думаю, што нічога. Колькасць праваапарушэнняў за год ужо перавысіла ў вобласці дзесяць тысяч. Узброеная міліцыя не дае рады спыніць гэты шквал. А тут актывіст-рабочы (а чаму не чыноўнік з гар- і аблвыканкамаў?) з павязачкай сурова пераступіць шлях злачынцу. Уяўляеце карцінку? Сёння і бандыт не той, што быў у 70-я - 80-я гады. Цяпер гэта ўзброены не горай за міліцыянта, матэрыяльна забяспечаны і рызыкоўны чалавек. Відавочна, трэба занесці забітага дружынніка на могілкі, каб зразумець усю нікчэмнасць задумкі «вертыкалі». Хіба таксама ўзброіць. Але дзе гарантыя, што не перастраляюць, як панапіваюцца, адзін аднаго? Гэта ў лепшым выпадку...

Хутка, здаецца, усе будзем маршыраваць строем. Грамадзяне возьмуць пад сваю ахову міліцыю і КГБ, АМАП і выканкамы, абы толькі жыла і кіравала намі родная «вертыкаль». За яе дабрабыт і жыццё пакласці не шкада. Тыя, каму гэта трэба рабіць па абавязку службы, не спраўляюцца ці шукаюць дурнейшых за сябе.

Да ўсенароднай барацьбы з бандытызмам, тэрарызмам і хуліганствам сіламі добраахвотных народных дружынаў будзь гатоў!

**Уладзімір Кавалёў**

## «Айбаліт» сапраўды быў добрым

**Днямі ў сярэдняй школе N14 завяршыў працу прышкольны лагер «Айбаліт» для дзяцей з малазабяспечаных і апякунскіх сем'яў. Дырэктарка Любоў Уладзіміраўна Бобрык гасцінна прыняла ў СШ N14 не толькі сваіх, але і вучняў суседняй сярэдняй школы N23.**

Адкрыўся гэты лагер дзякуючы сумесным намаганням Любові Уладзіміраўны Бобрык і старшыні Гарадзенскага абласнога камітэта таварыства Чырвонага Крыжа Лілії Георгіеўны Клячкоўскай.

Таварыства Чырвонага Крыжа паклапацілася пра тое, каб гэтыя дзеткі цэлы месяц харчаваліся бясплатна, смачна і паўнавартасна, пра тое, каб кожнае дзіця атрымала па дзве прадуктовыя пасылкі.

Калектыў выхавальнікаў быў нешматлікі, але дружны і згуртаваны: начальнік лагера - М.Краўцэвіч, выхавальніцы - І.Вішанькова, Л.Мачульская, В.Лукашык, Л.Байчук, С.Максімовіч. Яны ніколі на месцы не сядзелі. Пабывалі з дзеткамі ўсюды, дзе планавалі. Тэлефанавалі, прасілі бясплатна прыняць дзяцей у заапарк, музеі, рачны порт, у парк на каруселі.

Турбаваліся, што не адгукнуцца, не прымуць, але... Сталася, што дарэмна непакоіліся. Няма межаў чалавечай міласэрнасці, не счарсцвелі яшчэ сэрцы нашых людзей. Дзяцей прынялі ўсюды! І якімі яны былі шчаслівымі! Многія з іх адпачывалі так упершыню! І таму вялікі дзякуй хочацца сказаць: дырэктарцы Гарадзенскага заапарка Цэліне Іванаўне Пагерыла, дырэктарцы музея Старога і Новага замка Алене Андрэеўне Салаўёвай, дырэктару кінатэатра «Кастрычнік» Уладзіміру Андрэевічу Хлябічу, дырэктару парка імя Жылібера Мікалаю Якаўлевічу Яцкевічу, а таксама дырэктару рачнога порта Валерыю Уладзіміравічу Капітанаву.

**Ул. інф.**

## Дысплей для пошты - як лысаму расчоска?

**Учора ў гарадзенскім чацвёртым паштовым аддзяленні, што па вуліцы Будзёнага, усталёўвалі відэаапаратуру - дзве камеры і дысплей.**

- Пра гэта нельга пісаць у прэсе! - абурыўся намеснік дырэктара Галоўпаштамта Віктар Хаціневіч. - Гэтая тэхніка мае выключна ахоўную функцыю. Няўжо ў нас не можа быць прафесійнай таямніцы?

Такая сакрэтнасць звязана, відаць, з тым, што тэхніка ўжо даўно састарэла - набыта яна была вытворча-тэхнічнай лабараторыяй шмат гадоў таму. Ды, паводле словаў супрацоўнікаў пошты, гэтыя «навароты» нікому не патрэбныя. Адну груваcткую камеру ўстанавілі для назірання за касай, дзе ўжо ёсць сігналізацыя. А другую - у кладоўцы, дзе амаль зусім цёмна і, акрамя таго, працуе ахоўнік.

Таму супрацоўнікам паштовага аддзялення зараз давядзецца ламаць галаву: куды падзець непатрэбнага вартаўніка і як уначы асвятліць памяшканне, каб на тым дысплеі было б хоць што-небудзь відаць.

**Юлія Дарашкевіч**

# Дэмакраты адмовіліся ўдзельнічаць у псеўдавыбарах

**Асноўнай задачай IV Кангрэса дэмакратычных сілаў, які адбыўся 2 ліпеня ў Менску, была выпрацоўка адзінай пазіцыі ўсіх дэмакратычных сілаў Беларусі ў дачыненні да парламенцкіх выбараў, што збіраецца правесці ўвосень Аляксандр Лукашэнка.**

У рэзалюцыі «Аб стаўленні да выбараў» прынятай Кангрэсам, у чарговы раз падкрэсліваецца, пры выкананні якіх умоваў апазіцыя здолее прыняць удзел у выбарах. Перад уладамі вылучаюцца чатыры патрабаванні:

- забяспечыць наданне парламенту рэальных паўнамоцтваў як адзінаму заканадаўчаму органу;
- прывесці выбарчае заканадаўства ў адпаведнасць з еўрапейскімі стандартамі;
- забяспечыць рэальны доступ апазіцыйных партыяў да дзяржаўных СМІ;
- спыніць палітычныя рэпрэсіі, забяспечыць свабоду мірных сходаў і свабоду слова.

Аднак, канкрэтнага, дакладна сфармуляванага адказу на пытанне, будзе апазіцыя ўдзельнічаць у выбарах ці не, рэзалюцыя не дае.

Дзеля чаго тады патрэбна было прыняцце падобнай рэзалюцыі? 6-10 ліпеня ў Бухарэсце пройдзе чарговая сесія Парламенцкай асамблеі АБСЕ. Менавіта на ёй, як адзначыў у сваім выступе на Кангрэсе віцэ-спікер Вярхоўнага Савета 13-га склікання, старшыня АГП Анатоль Лябедзька, беларускай апазіцыі неабходна абгрунтаваць немагчымасць прыезду ў Беларусь міжнародных назіральнікаў на «арганізаваныя Лукашэнкам выбары».

Прадэманстраваная Кангрэсам кансалідацыя і аднагалоснасць беларускіх дэмсілаў у пытанні стаўлення да выбараў павінна, на думку арганізатараў Кангрэса, «дапамагчы» еўрапейскім парламентарыям прыняць адзінае слушнае ў гэтай сітуацыі рашэнне. У сувязі з гэтым, цалкам рэальным выглядае прыняцце Парламенцкай асамблеяй жорсткай рэзалюцыі па Беларусі, дзе будзе заяўлена пра немажлівасць прыезду назіральнікаў ад АБСЕ на выбары ў выпадку невыканання беларускімі ўладамі ўмоваў апазіцыі.

Як паказаў Кангрэс, не ўсе палітычныя партыі вызнаюць пазіцыю АБСЕ ды іншых міжнародных арганізацыяў за лёсавырашальную.

Лідар БНФ «Адраджэньне» Вінцук Вячорка заявіў на прэс-канферэнцыі літаральна наступнае: «У цяперашняй сітуацыі мы вызначылі сваё стаўленне да выбараў, і пазіцыя міжнароднай супольнасці ніяк не паўплывае на нашу пазіцыю. Змяніць яе могуць толькі ўнутраныя падзеі на Беларусі».

Падобнае стаўленне да выбараў выказаў і старшыня БСДГ Станіслаў Шушкевіч: «Мы не можам удзельнічаць ў фарсе. Наш няўдзел у выбарах - гэта дэманстрацыя нашай сілы».

Кангрэс прайшоў надзвычай гладка і практычна не адхіліўся ад сцэнару арганізатараў. Партыі паказвалі абсалютную згоду ў прымаемых рашэннях.

Рознасць пазіцыяў праявілася толькі тады, калі старшыня БСДГ Станіслаў Шушкевіч прапанаваў Кангрэсу прыняць папраўку ў рэзалюцыю «Аб стаўленні да выбараў», якая заклікала партыі забараніць сваім сябрам удзельнічаць у парламенцкіх выбарах у якой бы то ні было форме. Пазіцыю сваёй партыі Станіслаў Шушкевіч абгрунтаваў прэцэдэнтамі, якія ўзнікалі падчас выбараў у мясцовыя саветы, што адбыліся ў 1999 годзе. Тады, як вядома, шэраг апазіцыйных партыяў байкатаваў гэтыя выбары, але пры гэтым іх сябры, у асноўным у рэгіёнах, мелі права браць удзел у праводзімых выбарах.

У штыкі папраўка, прапанаваная БСДГ, была сустрэта старшынём АГП Анатолем Лябедзькам і лідарам БСДП (НГ) Міколам Статкевічам. Дзве гэтыя партыі яшчэ не прынялі канчатковага рашэння па ўдзелу ў парламенцкіх выбарах і, як адзначыў Анатоль Лябедзька, права прымаць прынцыповае рашэнне мае толькі палітсавет партыі, а не ён сам.

У выпадку з БСДП (НГ) вялікую ролю, магчыма, адыграла і пэўнае супрацьстаянне дзвюх сацыял-дэмакратычных партыяў.

Нягледзячы на гэта, папраўка БСДГ была прынята дэлегатамі Кангрэса. І гэта, як адзначаюць аналітыкі, практычна пазбавіла ўзгаданыя партыі магчымасці палітычнага манеўра.

Парламенцкая асамблея АБСЕ, якая стартавала ў Бухарэсце ўжо сёння, павінна паказаць, ці слушнымі былі спадзяванні дэмсілаў на міжнародную супольнасць.

Вынікі Кангрэса засведчылі адзінства апазіцыі ў дачыненні да выбарчага фарсу. Аднак лёс гэтага адзінства знаходзіцца цяпер у руках міжнароднай супольнасці.

Варта будзе міжнародным арганізацыям, парламентам і ўрадам дэмакратычных краінаў заявіць аб прызнанні выбараў легітымнымі і дэмакратычнымі - адзіная беларуская апазіцыя разбурыцца, як картачны домік.

**Павал Мажэйка**



Лявон Баршчэўскі адкрывае Кангрэс дэмакратычных сілаў



Амбасадар Францыі Бернар Фасье і кіраўнік КНГ АБСЕ Ханс-Георг Вік слухаюць гімн «Пагоня» падчас адкрыцця Кангрэса

# Навучыла жыццё Мікалая!

**Намеснік старшыні Астравецкай раённай арганізацыі Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Беларусі Мікалай Уласевіч надрукаваў у ПАГОНІ (ад 29 чэрвеня 2000 года) карэспандэнцыю пад назвай «Ці варта лезці ў выбарчую пастку?».**

Аўтар пасля доўгіх разважанняў дае нарэшце ясны адказ: не трэба. І прыводзіць яскравыя доказы для пацвярджання сваёй пазіцыі. Летась ён вылучаўся кандыдатам у дэпутаты мясцовага Савета. Сёння спадар Мікалай слова «выбары» піша ў двукоссі. Яму, маўляў, тады не далі выказацца ў мясцовых СМІ - у райгазеце і на радыё, не надрукавалі агітплакат, «як таго патрабуе закон», нават выключылі са спісаў кандыдатаў у дэпутаты. Праўда, аднавілі пад пагрозай судовага разбіральніцтва. Пасля заканчэння «сфальсіфікаваных выбараў» прыцягнулі самога да адміністратыўнай адказнасці нібыта за заклік да байкатавання выбараў.

Можна толькі паспачуваць дэмакрату з АГП. Аднак узнікае шэраг пытанняў. Наколькі вядома, летась дэмакратычныя сілы краіны адназначна адмовіліся прымаць удзел у выбарчым фарсе, які падрыхтавала «вертыкаль». Але гэтае супольнае рашэнне праігнаравалі камуністы, сябры ЛДПБ, некаторыя іншыя партыі і грамадскія рухі. Яны навыперадкі рушылі «ў дэпутаты», прапаноўвалі сваіх вылучэнцаў у склад выбарчых камісіяў. З гэтага нічога, вядома, не атрымалася. Прагназаваны аналітыкамі вынік пацвердзіўся. Саветы былі складзены з загадзя адабраных і правераных на лаяльнасць людзей.

Цікава, ці назваў бы тыя выбары «хлуслівымі», а ўладу «вераломнаю» шаноўны Мікалай, калі б стаў дэпутатам? Ён што, прабачце, не чытаў прагрэсіўных газетаў, дзе чорным па беламу былі расказаныя ўсе «за» і «супраць»? Адмоўнага было больш, і з гэтага вынікала: на выбары ісці не след. Калі нехта памкнуўся «на авось», дык гэта ягоныя праблемы...

**Сцяпан Ярашчук**

# Без «Надзеі» нельга

**Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў (КРДС) пашырылася на некалькі палітычных партыяў. Такі адзін з вынікаў IV Кангрэса дэмакратычных сілаў (КДС) Беларусі, які прайшоў у Менску 2 ліпеня.**

Колькасць удзельнікаў КРДС узрасла за кошт шэрагу партыяў, што ўваходзяць у Кансультатыўную раду апазіцыйных палітычных партыяў - Беларускай партыі працы, Беларускай партыі жанчын «Надзея» і Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Апрача таго, зараз у гэтую структуру ўвойдуць прадстаўнікі прэзідыума Вярхоўнага Савета 13-га склікання, а таксама абласных і менскай гарадской каардынацыйных радаў дэмакратычных сілаў.

Нагадаем, што раней у КРДС уваходзілі тры палітычныя партыі - Аб'яднаная грамадзянская, Партыя БНФ (пад кіраўніцтвам В.Вячоркі) і Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада), а таксама Асамблея няўрадавых арганізацыяў, Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў і грамадзянская ініцыятыва «Хартыя'97».

Кангрэс дэмакратычных сілаў таксама прыняў рэзалюцыю «Аб кансалідацыі дэмакратычных сілаў», у якой заклікаў мясцовыя структуры арганізацыяў - удзельніцаў Кангрэса прыступіць да стварэння рэгіянальных каардынацыйных радаў дэмакратычных сілаў у абласцях, гарадах і раёнах, дзе яны яшчэ не створаныя. Гэта, як зазначаецца ў дакуменце, неабходна «для эфектыўнай рэалізацыі сумесных палітычных рашэнняў Кангрэса дэмакратычных сілаў».

**Юрый Пацёмкін**

# І ты, Клінтан?..

**Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан падпісаў рашэнне аб спыненні агульнай сістэмы гандлёвых прэферэнцыяў (СГП) у адносінах да Беларусі. Пра гэта 3 ліпеня абвесціла Шарлен Баршэўскі - гандлёвы прадстаўнік ЗША.**

Паводле словаў сп. Баршэўскі, асноўнай прычынай адмены ільготаў для Беларусі з'явілася парушэнне правоў працоўных у краіне. Згодна са стандартнай працэдурай, рашэнне ўваходзіць у сілу праз 2 месяцы пасля падпісання яго прэзідэнтам. СГП ужываецца Злучанымі Штатамі ў адносінах да развіваючыхся дзяржаваў і разлічана на падтрымку палітычных і эканамічных рэформаў.

Як раней паведамлялі ў Амбасадзе ЗША ў Беларусі, да разгляду пытання аб спыненні СГП улады Злучаных Штатаў звярнуліся па ініцыятыве Федэрацыі амерыканскіх прафсаюзаў AFL/CIO, якая аб'ядноўвае каля 13 мільёнаў чалавек. Прадстаўнікі прафсаюзаў выказалі заклапочанасць сітуацыяй у сферы правоў працоўных у Беларусі.

Паводле інфармацыі Амбасады ЗША, адмена прэферэнцыяў закране каля паловы беларускага экспарту ў Злучаныя Штаты - пры гэтым мытныя плацяжы ў сярэднім павялічацца на 5 працэнтаў. Агульная сума беларускага экспарту ў ЗША за 1999 год склала 79,7 мільёнаў даляраў ЗША; гандаль са Злучанымі Штатамі склаў за 1999 год 1,7 працэнта ад агульнага знешняга тавараабароту Беларусі.

**Алесь Абрамовіч**

# Новы тэрмін для Севярынца

**«Малады Фронт - не лінія акопаў на мяжы з Расеяй, не вулічны батальён у вайне з асобна ўзятым Лукашэнкам. а добраахвотнае рушанне беларускай моладзі супраць дыктатуры ды імперыі, усяго зла і бездухоўнасці ў дзяржаве і грамадстве». Так можна акрэсліць асноўную ідэю праграмы развіцця Маладога Фронту, прэзентаваную Паўлам Севярынцам і ўхваленую III Соймам МФ, што адбыўся першага ліпеня ў Менску.**

Чуткі пра існаванне ў буйнейшай моладзевай дэмакратычнай арганізацыі Беларусі - Маладым Фронце - апазіцыі яе нязменнаму кіраўніку Паўлу Севярынцу гучалі ўжо даўно. Бліжэй да лета з шэрагаў апазіцыі вылучаўся лідар - Аляксей Шыдлоўскі. Шыдлоўскі - вязень сумлення, чалавек надзвычайнай годнасці, у свой час адседзеў паўтары гады за палітычныя графіці. Ён павінен быў стаць сапраўднай альтэрнатываю Севярынцу на выбарах старшыні Маладога Фронту.

Агітуючы «маладафронтаўцаў» за Шыдлоўскага, ягоная каманда абапіралася у асноўным на пралікі, якія зрабіў МФ пад кіраўніцтвам Паўла Севярынца. Севярынца абвінавачвалі ў рэлігійна-артадаксальнай ідэалогіі арганізацыі, у бясконцай бегучасці кадраў, у страце лідарскіх пазіцыяў у моладзевай палітычнай сферы, у страце аўтарытэту ў журналісцкіх і палітычных колах.

У сваю чаргу Павал Севярынец сканцэнтраваўся на дасягненнях Маладога Фронту перыяду 1997-2000 гадоў. Гэта Алімпіяды МФ, Акцыі Любові 14 лютага, стварэнне сатэлітных арганізацыяў, масавыя вулічныя акцыі пратэсту.

Вырашыць, хто будзе надалей кіраваць Маладым Фронтам, павінен быў III Сойм МФ.

Супернікі выставілі дзве якасна распрацаваныя праграмы развіцця Маладога Фронту. Яны зыходзіліся ў адным - Малады Фронт павінен мець статус найбуйнейшай і самай аўтарытэтнай моладзевай дэмакратычнай арганізацыі на Беларусі.

Малады Фронт паводле праграмы Севярынца мусіць стаць Нацыянальным Рухам Моладзі з сотнямі тысяч сяброў і прыхільнікаў. Каманда Шыдлоўскага бачыла будучыню арганізацыі ў элітарнасці - «нам патрэбныя не масы, а канкрэтныя людзі з канкрэтнымі перакананнямі і здольнасцямі».

Вынікі патаемнага галасавання, у якім узялі ўдзел 170 дэлегатаў з усяе Беларусі засведчылі перамогу Паўла Севярынца - за яго аддалі свае галасы 103 дэлегаты, 45 - за Шыдлоўскага, а 15 галасавалі супраць усіх.

У знак пратэсту супраць пераабрання Паўла Севярынца на старшынства Аляксей Шыдлоўскі, Уладзімір Лабковіч, Андрэй Пятроў, Аляксей Янукевіч спынілі сваё сяброўства ў Маладым Фронце.

Ці адаб'ецца гэты дэмарш расколам у буйнейшай моладзевай арганізацыі, пакажуць падзеі Восені-2000. Відавочна, што «раскольнікі» мелі дастатковы аўтарытэт у МФ і Севярынец сутыкнецца з вялікімі цяжкасцямі ў ажыццяўленні сваёй праграмы.

**Павал Мажэйка**

# «Балтыйскія хвалі» нарастаюць

З першага ліпеня радыё «Балтыйскія хвалі» пашырае эфір да 9 гадзін на дзень.

Праект уключае ў сябе трансляцыю на Беларусь радыёстанцыяў «Polonia», «Свабода» і «Балтыйскія хвалі» з Вільні. Сетка эфіру на дыяпазоне 490 метраў ці 612 КГц цяпер выглядае наступным чынам:

06.00 - 07.00 - Навіны
15.30 - 16.30 - Навіны
16.30 - 17.00 - Музычная перадача
17.00 - 18.00 - «Балтыйскія хвалі»
18.00 - 19.30 - «Свабода»
19.30 - 19.55 - «Polonia»
20.00 - 21.30 - «Свабода»
21.30 - 21.40 - Беларускія навіны
21.40 - 22.00 - Музыка
22.00 - 23.30 - «Свабода»

# Французскі прывід з Гродна



**Жэрар Шушан - француз. Звычайны забяспечаны жыхар Францыі. Рэжысёр. У маладосці быў членам камуністычнай партыі. Кажа, што зацята верыў у цудоўнае і заможнае жыццё ў СССР. Калі зразумеў, што ўсё гэта мішура, уяўнасць, выйшаў з партыі. Сёння працятвае займацца сваёй улюбёнай справай - здымае дакументальныя фільмы. Аднак усё жыццё яго бунтавалі два незразумелыя і дзіўныя для яго словы - Гродна і Нёман...**

- ...Мой бацька Альбэр Нахман Шушан нарадзіўся ў Гродне ў 1892. У 1902 годзе сям'я пераехала ў Парыж, у 1934 годзе нарадзіўся я. Бацька ўспамінаў пра Гродна. Ён распавядаў мне пра Нёман, дзе плаваў, як Нёман замярзаў і дзеці хадзілі па ім... Гэтыя дзіўныя словы - Гродна і Нёман. І вось я тут. Нейкая містычная сіла мяне сюды прывабіла.

Я - жыд. Частка маёй сям'і тады, у пачатку стагоддзя, не ад'ехала з Гродна. У другую сусветную вайну яны ўсе, зразумела, былі знішчаныя. Я не ўпэўнены, ці здолею знайсці сляды сваёй сям'і. Мяне цікавіць гісторыя Беларусі з яе дзвюма сусветнымі войнамі. Я спрабую знайсці людзей, якія перажылі тут другую сусветную вайну. Хачу зняць фільм. Ён мае працоўную назву «Прывід з Гродна». Можа, прывід - гэта я. Я вярнуўся...

...Я вельмі добра адчуваю сябе сярод мясцовых людзей, не магу патлумачыць чаму. Мне падабаецца мова. Я тут ужо некалькі дзён. Быў у Навагрудку, цяпер - Гродна. Вельмі ўражвае прырода, лясы, я набіраюся моцы ад гэтых дрэваў. Тут вельмі прыгожа. Я сустрэў шмат людзей, цудоўных і гасцінных.

Мяне здзіўляе той факт, што ў Гродне яшчэ засталіся старыя кварталы. У часы СССР было шмат знішчана прыгожых гарадоў. Я папросту ў захапленні ад таго, што Гродна не быў цалкам разбураны. Мне вельмі падабаецца хадзіць па ягоных старых вулачках.

...Нельга сказаць, што ў Францыі не гавораць пра Беларусь. Але гавораць мала. У асноўным пра Чарнобыльскую трагедыю і яе наступствы. Гавораць пра палітычныя падзеі ў краіне. Аднак для большасці французаў слова Беларусь не азначае нічога.

Я чытаў «Чарнобыльскую малітву» Святланы Алексіевіч. Проста незразумела і дзіўна, чаму такая кніга не можа быць апублікаваная ў Беларусі.

...У ЗША, але перадусім у Францыі, мне падаецца, жыве шмат людзей-выхадцаў з Гродна. У Парыжы на жыдоўскіх могілках ёсць нават цэлы сектар, дзе пахаваныя ўраджэнцы Гродна.

Я хачу прыехаць на Беларусь некалькі разоў, каб больш даведацца пра краіну і людзей. Калі мы будзем рабіць наш фільм хутка, мы ледзь закранем паверхню. Таму сёння толькі пачатак гіганцкай працы.

**Павал Мажэйка**

**На здымку: сваякі Жэрара Шушана. У цэнтры - дзядзька ягонага бацькі. Гродна 1925 г.**

# Сябры Беларускай Аўтакефаліі - семінарысты з Жыровічаў

**У эфіры Беларускай службы Радыё Свабода першага чэрвеня гэтага года быў зачытаны ліст студэнтаў Менскай духоўнай семінарыі ў Жыровічах. Пазней ён з'явіўся на сайце Радыё Свабода ў Інтэрнэце. Змяшчаем гэты матэрыял на старонках нашай газеты.**

Некалькі тыдняў таму выкладчык адной з праваслаўных вучэльняў у сваім лісце распавядаў пра парадкі, якія пануюць за манастырскімі сценамі. І вось яшчэ адзін ліст з духоўнай семінарыі, гэтым разам - ад студэнтаў, якія наважыліся змагацца за Беларускую аўтакефальную царкву, і дзеля гэтага нават стварылі ўласную арганізацыю.

*«Дзякуем за тое, што ў адной з перадачаў прагучаў расповед пра семінарыю,* - пішуць яны ў сваім лісце. - *Беларускі народ цярплівы, але і ягонаму цярпенню можа настаць канец. Некаторыя студэнты зразумелі гэта і стварылі групу «Сябры Беларускай аўтакефаліі». Мы лічым, што на сённяшні момант Беларускі Экзархат Маскоўскай Патрыярхіі дыскрэдытаваў сябе. Сябры СБА - будучыя пастыры Беларускай Аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ).*

*Мы лічым, што беларускія аўтакефальныя епіскапы за мяжою павінны дапамагчы свайму народу не толькі малітваю, але і справаю. Для паўнавартаснага існавання царквы патрэбен епіскап з незаплямленай рэпутацыяй і адпаведнай адукацыяй.*

*Вядома, наша праца сутыкаецца з цяжкасцямі. У семінарыі пануе інфармацыйны вакуум. Сюды не даходзяць газеты беларускае апазіцыі, а сумнеўныя нумары «НГ-рэлігіі» адбіраюцца. Могуць адабраць радыёпрыёмнік, а таго, хто яго слухаў, пакараць. Нават найменшая крытыка парадкаў, якія існуюць у семінарыі, можа прывесці да выключэння студэнта.*

*На жаль, мы не маем магчымасці падтрымліваць і наладжваць кантакты са святарамі, якія апынуліся па-за юрысдыкцыяй Маскоўскае Патрыярхіі. І вельмі добра, што асобныя звесткі пра іх паведамляеце вы. Вельмі просім болей распавядаць пра БАПЦ, пра яе дзейнасць за мяжою, пра асобы патрыярхаў ды іхнюю гатоўнасць да адраджэння БАПЦ у Беларусі. У незалежнай дзяржаве павінна быць незалежная царква»,* - напісалі студэнты Жыровіцкае духоўнае семінарыі, якія ўтварылі групу «Сябры Беларускай аўтакефаліі».

Разам з лістом на радыё студэнты даслалі адкрыты ліст да мітрапаліта Філарэта, у якім прад'яўляюць да яго шэраг сур'ёзных прэтэнзіяў. У прыватнасці, сябры Беларускае аўтакефаліі абвінавачваюць Патрыяршага экзарха ў тым, што ён пераследуе іншадумства і любую крытыку на свой адрас, што яму чужыя ідэі самасвядомасці беларускага народа, што ён не ведае і ніколі не карыстаецца беларускай моваю.

Зразумела, вырашэнне праблемаў унутрыцаркоўнага жыцця і міжканфесійных зносінаў - справа найперш саміх вернікаў і кіраўніцтва канфесіяў. Адметна, аднак, тое, што грамадства часта пазбаўлена дакладнай інфармацыі пра сапраўдныя настроі і падзеі ў царкоўным асяродку. А працэсы там адбываюцца не тыя (ці, прынамсі, не толькі тыя), пра якія паведамляюць царкоўныя ўлады. Ліст маладых семінарыстаў, будучых беларускіх праваслаўных святароў, пра гэта дакладна сведчыць.

# Вільня - акно ў Еўропу!

**Увесь мінулы тыдзень 17 журналістаў з Беларусі правялі на літоўска-беларускім семінары «10 гадоў дэмакратычных рэформаў», што ладзіў у Вільні цэнтр «Дэмакратыя для Беларусі» на сродкі Амерыканскага цэнтра ў Вільні ды Фонду адкрытай Літвы.**

Сярод удзельнікаў семінара былі журналісты «Віцебскага кур'ера», часопіса «Спадчына», бюлетэняў «Мы - ліцьвіны» і «Беларуская перспектыва». Асаблівую дасціпнасць у вывучэнні дэмакратычнай практыкі Літвы падчас шматлікіх сустрэчаў з грамадскімі і палітычнымі дзеячамі выявілі Зміцер Саўка (часопіс «Arche») і Алесь Аркуш.

Распад СССР стаў водападзелам, пасля якога Літва і Беларусь сталі развівацца ў розных кірунках. Цяпер два суседнія народы аддзелены межамі, візавым рэжымам і палітычнымі адносінамі. Літва ідзе ў Еўропу, а Беларусь - у адваротны бок. Мэтай семінара і стала паспрыяць абмену інфармацыяй пра жыццё дзвюх краінаў, усталяваць чалавечыя і журналісцкія кантакты.

Вільня пачала паказваць свае адметнасці ўжо на чыгуначным вакзале, як толькі мы сышлі з цягніка «Менск-Вільня». На пероне шпацыраваў паліцэйскі дуэт - хлапец і дзяўчына ў форме колеру марской хвалі. Без дубінак і кайданак за поясам, але з ветлівымі ўсмешкамі. Надалей у Вільні даваўся сустракаць яшчэ шмат дзяўчатаў-паліцэйскіх, якія выглядалі ў форме хутчэй спакушальна, чым застрашальна.

Сталіца Літвы сёння робіць уражанне горада эксклюзіву і шляхетнай вытанчанасці. Тычыцца гэта галоўным чынам цэнтральнай часткі. Вільня і віленчукі - аматары штучнай моды. У вопратцы жыхары сталіцы знайшлі свой стыль, які дэкларуе элегантнасць і камфортную прыгажосць. У бізнесцэнтры горада тутэйшыя дэндзі ўражваюць бэзавымі гарнітурамі з гальштукамі колеру цытрыны. Зусім няма джынсаў. Літоўцы вельмі шануюць і дорага плацяць за рэчы, зробленыя рукамі майстра. Тут не носяць паточнага трыкатажу, але апранаюць на ўсе выпадкі жыцця вязаныя ўручную рэчы. Жаночы касцюм з ільну каштуе 120 даляраў.

Кошты ў Літве - асобная тэма. Да іх, як і да арыентацыі Літвы да ўваходу ў NATO і Савет Еўропы, стаўленне неадназначнае. За вонкавым лоскам сталіцы хаваецца беспрацоўе і беднасць правінцыі. Доктар эканамічных навук, былы міністр эканомікі Літвы Юлюс Вяселка даў свой каментар літоўскім рэаліям:

- У Літве сёння хуткімі тэмпамі ідзе расслаенне насельніцтва на багатых і бедных, што спараджае грамадства, якое можа прывесці да сацыяльнай рэвалюцыі. Дэмакратыя - гэта дыктатура грошай і кланаў накшталт Беразоўскага і Гусінскага ў Расеі. Грошы - гэта добра, а вось ад кланаў трэба пазбаўляцца.

Прынцыпамі рэарганізацыі літоўскай эканомікі сталі лібералізацыя рынкавых адносінаў, план хутчэй раздаць маёмасць у прыватныя рукі, акцыянаванне прадпрыемстваў і жорсткая прывязка літа да даляра (за адзін даляр - чатыры літы). Тыя, хто атрымаў долю падчас прыватызацыі ды акцыянавання, сёння жывуць багата. Тыя ж, хто жыве з зарплаты, часта не маюць у чым адправіць дзяцей у школу.

Кожны ахвотны ў Літве мог атрымаць 4-5 гектараў зямлі. І атрымаў, але для апрацоўкі няма ні тэхнікі, ні паліва, ні ўгнаенняў. У віленскіх крамах палова харчовых тавараў - экспартныя. Кілбасы, сыры, мяса - каштуюць у пераліку 2-5 даляраў за кілаграм. Малако - 380 рублёў за паўлітра, хлеб - 300-350 рублёў за бохан. Літоўскае піва - 0,5 - 1 даляр. На душу насельніцтва Літва мае пазыкі краінам Еўропы каля 1200 даляраў. Заробак настаўніка - 450 літаў, прафесара - 800, журналіста - каля 2000 літаў.

На ежу літовец выдаткоўвае 40 працэнтаў сваіх грошай. На плату за кватэру і камунальныя паслугі - яшчэ каля 30 працэнтаў (300-350 літаў). На астатняе застаецца каля 300 літаў ці 75 даляраў пры сярэднім заробку ў 1000 літаў. Пенсія калгасніка - 300 літаў.

Развіццё сельскай гаспадаркі Літвы адкінута на 40 гадоў назад, прамысловасці - на 30 гадоў. Зараз да нас ідуць інвестыцыі, але грошы, што ідуць у пазыку, трэба аддаваць. Мы ідзем у Еўрасаюз, але ці гатовыя мы, з постсавецкай эканомікай? Беднасць робіць чалавека дурным.

Па сітуацыі са сродкамі масавай інфармацыі можна меркаваць пра становішча ў краіне. Сёння ў Літве адзін канал радыё і адзін тэлеканал (LRT) захавалі статус дзяржаўных. Але няма ніводнай дзяржаўнай газеты ці часопіса. Выходзяць каля 20 штодзённых газетаў. Самы вялікі наклад у «Letuvos ritas» («Раніца Літвы») - каля 50 тысяч паасобнікаў. Рэгіянальныя газеты выходзяць па 2-5 тысяч паасобнікаў. На нацыянальнай тэле-радыёстудыі LRT працуе музей тэлебачання, у якім дэманструецца дакументальны фільм пра захоп Віленскага тэлецэнтра ўнутранымі войскамі Расеі 13 студзеня 1991 года. Тады быў забіты 21 літовец.

Шчарбіны ад куляў расейскіх аўтаматаў Калашнікава да гэтай пары засталіся на будынку нацыянальнага тэлецэнтра. Літоўскія СМІ 10 гадоў працавалі на ўсталёўванне дэмакратыі і цяпер адчуваюць сябе вольна. Дзяржчыноўнік не мае права выкарыстаць у размове з журналістам фразу «я не магу гэтага вам сказаць», ён павінен выдаваць любую патрэбную інфармацыю.

Старшыня Саюза журналістаў Літвы Рымгаўдас Эйлунавічус за галоўную заваёву гэтых дзесяці гадоў рэформаў лічыць тое, што «ў нас такі чалавек, як Лукашэнка не можа прыйсці да ўлады. Для нас ужо няма шляху назад у СССР».

У кастрычніку ў Літве пройдуць выбары ў Сейм. Таму палітычная сітуацыя сёння напалена - ідзе барацьба паміж кіруючай партыяй кансерватараў, ЛДПП (Літоўская дэмакратычная партыя працы, Бразаўскас) і лібераламі. Навуковец, рэдактар часопіса «Politologia» Лаурас Бяляніс упэўнены, што сёлетнія выбары не будуць спакойнымі.

- У Літве рэальна існуе шматпартыйная сістэма, 43 партыі возьмуць удзел у перадвыбарчай барацьбе. Палітычныя сілы краіны гуртуюцца ў чатыры блокі. Левыя - ЛДПП, Левы Саюз, Новая дэмакратыя (жаночая партыя). Па закону маятніка, які пацвярджаўся ў нас на кожных выбарах, ад іх улада пяройдзе да лібералаў. Ліберальнае крыло прадстаўляюць папулярныя сёння Новы Саюз, Саюз Цэнтра... У Літве ёсць адна сялянская партыя. Мае прыхільнікаў сярод вясковага насельніцтва, якое складае 45-48 працэнтаў насельніцтва. Літоўскія правыя - гэта старыя хрысціян-дэмакраты, Партыя рэпрэсаваных ды іншыя.

Літва мае тыя ж праблемы, што і ўсе краіны Усходняй Еўропы: прыватызацыя, бюракратыя, імклівае расслаенне на багатых і бедных... Аднак некалькі дзён знаходжання ў гэтай краіне даюць мне права пракаментаваць іх наступным чынам: «Нам бы іх праблемы!». Але ёсць адчуванне, што не хутка гэтае пажаданне ўвасобіцца ў жыццё. Бо, памятаеце, «я свой народ за цывілізаваным светам не паведу»!

А так хочацца ў Вільню!..

**Алена Сіневіч**

# Аграрны крызіс зноў нагадвае пра сабе



**З таго часу, як да ўлады прыйшоў Аляксандр Лукашэнка, аграрны крызіс у Рэспубліцы Беларусь мае перманентны характар. І ўвесь гэты час ад кампаніі да кампаніі ўлады беспаспяхова спрабуюць вырашыць аграрныя праблемы. Апошнім часам у цэнтры ўвагі знаходзяцца праблемы падрыхтоўкі да ўборкі ўраджаю і нарыхтоўкі кармоў. Тэрмін «бітва за ўраджай» неяк знік з лексікону кіраўнікоў рэспублікі. Відаць, таму што «бітваў» было шмат, але не было перамог.**

Каб палепшыць сітуацыю з падрыхтоўкай да ўборкі ўраджаю ды інтэнсіфікаваць нарыхтоўку кармоў, А.Лукашэнка ў сярэдзіне чэрвеня правёў спецыяльную нараду чыноўнікаў рангам ад губернатара і вышэй. А сітуацыя сапраўды выклікае непакой. На кожны з камбайнаў прыпадае 185 гектараў зерневых, не ўлічваючы зерневага поля прыватнага сектару. Але і гэтыя камбайны амаль на палову няспраўныя. Па стану на канец другой дэкады чэрвеня, калі да пачатку ўборкі заставалася менеей як тры тыдні, было адрамантавана толькі 55 працэнтаў уборачных агрэгатаў, а ў Віцебскай і Магілёўскай абласцях, адпаведна паведамленню Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, менеі за палову. Адставанне з падрыхтоўкай уборачнай тэхнікі звязана з вялізнымі цяжкасцямі ў фінансавай сферы. Няма грошай на запчасткі, на гаручае і не ўдаецца пераадолець нечуваную запазычанасць па заробнай плаце. На пачатак чэрвеня запазычанасць работнікам калгасаў і саўгасаў перавысіла 10 мільярдаў рублёў. У гэтых умовах падрыхтоўка да жніва ідзе без асаблівага энтузіязму.

Энтузіязму не дадае і тая абставіна, што пасевы зерневых знаходзяцца ў незайздросным стане. Вінаватыя не толькі кліматычныя ўмовы, але і якасць апрацоўкі глебы, няпоўная запраўленасць арганічнымі і мінеральнымі ўгнаеннямі, далёка не лепшыя тэрміны пасеваў. Таму, паводле ацэнкі спецыялістаў, у гэтым годзе збор зерня будзе прыкладна на 30 працэнтаў меншы за мінулагодні. А значыць, недзе ў межах трох мільёнаў тон.

Невыпадкова пры нядаўнім наведванні Менскага маторнага завода на пытанне рабочага, чаму хлеб стаў такі дарагі, Аляксандр Лукашэнка адказаў: «Беларусь зерне не вырошчвае. Яна яго купляе, таму бохан чорнага хлеба і каштуе 300 рублёў. Ды дзяржава дае датацыю на гэты бохан 200 рублёў». Такая заява, канешне, гучыць трывожна і сведчыць пра тое, што кошты на хлеб будуць расці і надалей. Але на якой падставе кіраўнік дзяржавы прыйшоў да высновы, што Беларусь не вырошчавае зерне? Відаць, створаны такія ўмовы, што яна не можа вырошчваць хлеб. Але гэта справа іншая. Лепей бы А.Лукашэнка патлумачыў, чаму нашыя суседзі, да прыкладу Літва, Латвія і Польшча, забяспечваюць рост збору зерня, а ў нас ураджайнасць зерневых штогод зніжаецца.

Улады прадбачаць, што зерне давядзецца закупаць і ў гэтым годзе. І не толькі харчовае, але і фуражнае. Таму ўжо сёння прадпрымаюцца меры, каб яго набыць. З гэтай мэтаю Беларусь апранаецца ў тогу багатага кампаньёна інтэграцыйнага працэсу. Толькі што набытыя ў Польшчы камбайны, што яшчэ не прайшлі прадпрадажную абкатку, грузяцца на чыгуначныя платформы і разам з камбайнерамі накіроўваюцца ў Краснадарскі край збіраць расейскую пшаніцу. Плануецца зарабіць на кожным камбайне 160 тон цвёрдай пшаніцы. А разам недзе каля шасці тысяч тон. Але ж адбудзецца знос новай тэхнікі плюс трэба ўлічыць выдаткі на перавозку. Ці не атрымаецца так, што аўчынка не будзе вартай вырабу?

Паралельна з крызісам зерневай гаспадаркі паглыбляецца крызіс у жывёлагадоўлі. На дзесяць працэнтаў скарацілася пагалоўе буйной рагатай жывёлы. Гэта абумовіла рэзкае скарачэнне вытворчасці малака і мяса. А.Лукашэнка на аграрнай нарадзе загадаў, каб пагалоўе было аднаўлена да першага кастрычніка. З гэтай задачай можна справіцца, калі выдаткаваць вялікія сродкі для закупу маладняка ў прыватных падсобных гаспадарках. Але такіх грошай няма. І гаспадаркі знаходзяць выйсце ў тым, што абяцаюць разлічыцца за маладняк натурай: грубымі кармамі і зернем. Аднак гэта падрывае кармавую базу грамадскай жывёлагадоўлі.

Ёсць яшчэ больш сур'ёзная пагроза скарачэння прадукцыйнасці грамадскай жывёлагадоўлі. Размова вядзецца пра нездавальняючы ход нарыхтоўкі травяністых кармоў. Улады паставілі задачу забяспечыць у гэтым годзе прырост нарыхтоўкі ўсіх відаў кармоў у параўнанні з мінулым годам на 40 працэнтаў. Аднак гэтае заданне не выконваецца. Адпаведна дадзеным начальніцы аддзела кормавытворчасці Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Марыі Парфеновіч, прадукцыйнасць аднаго гектару траваў першага ўкосу складае 12-14 працэнтаў кармавых адзінак.

Дзе ж выйсце з гэтай сітуацыі? Улады бачаць яго перш за ўсё ў тым, каб пасля першага ўкосу правесці падкормку траваў з разліку 45-60 кілаграмаў дзейнага азоту на гектар. Але, па-першае, гэтая праца патрабуе шмат выдаткаў і высілкаў. Па-другое, ці ўсталюецца адпаведнае надвор'е для ўборкі траваў другога ўкосу? Такім жа праблематычным з'яўляецца і рашэнне выкарыстоўваць пажнiўныя пасевы для папаўнення запасаў кармоў. У мінулым годзе таксама была надзея на пажнiўныя пасевы. Чым усё скончылася - вядома. Бяскорміца знішчыла сотні тысяч галоваў быдла. Мала спадзеваў і на адміністратыўнае вырашэнне кармавой праблемы. Жыхарам раённых цэнтраў - настаўнікам, служачым, рабочым - даюцца жорсткія заданні па нарыхтоўцы грубых кармоў: па 300 кілаграмаў сена на чалавека. Трэба сказаць, што гэта сур'ёзнае заданне, тым больш, што трэба мець навыкі касьбы, інвентар і час, а таксама транспарт для паездкі на месца сенаўборкі. Канешне, пэўная колькасць кармоў для грамадскай жывёлы будзе нарыхтавана і такім спосабам. Але сказаць, каб гэта было вызначальнай мерай вырашэння кармавой праблемы, цяжка. Тым больш, што гэтая мабілізацыйная мера не дала станоўчых вынікаў і ў мінулым годзе.

**Уладзімір Кулажанка, доктар эканамічных навук, прафесар**

## Не задаволілі...

**Прагрэс, дасягнуты ў грашова-крэдытнай і валютнай палітыцы Беларусі за апошнія паўгода, недастатковы для пачатку перамоваў з Міжнародным валютным фондам пра аднаўленне крэдытавання. Пра гэта было заяўлена 1 ліпеня на прэс-канферэнцыі ў Менску, якую правялі кіраўнік місіі, намеснік начальніка аддзела другога еўрапейскага ўпраўлення МВФ Марта дэ Кастэла-Бранка і пастаянны прадстаўнік фонду ў Літве і Беларусі Марк Хортан.**

1 ліпеня сустрэчай з прэм'ер-міністрам краіны Уладзімірам Ярмошыным місія МВФ, якая знаходзілася ў Беларусі з 21 чэрвеня, завяршыла сваю працу. Мэтай яе прыезду было правядзенне з беларускім кіраўніцтвам штогадовых кансультацыяў па пытаннях эканамічнай палітыкі і яе перспектываў.

**Аляксей Арэшка**

# «Зялёная карта» для спецыялістаў у галіне камп'ютарных тэхналогіяў

### 1. Федэральны ўрад зацвердзіў новыя палажэнні

31 траўня 2000 года Федэральны ўрад ухваліў

- Пастанову аб дазволе на працу для высокакваліфікаваных замежных спецыялістаў па інфармацыйных і камунікацыйных тэхналогіях;

- Пастанову аб пасведчанні на права жыхарства для гэтага кола асобаў.

Гэтымі пастановамі ажыццяўляецца спрошчаная працэдура, узгодненая «Праграмай неадкладных мераў Федэральнага ўрада ды інфармацыйна-камунікацыйнай індустрыі па ліквідаванні дэфіцыту прафесійных работнікаў» ад 13 сакавіка 2000 года, якая дазваляе атрымаць доступ да нямецкага рынку працы замежным высокакваліфікаваным спецыялістам у галіне камп'ютарных тэхналогіяў, і ствараюцца неабходныя прававыя асновы для іх знаходжання ў краіне.

Абедзве пастановы павінны ўвайсці ў сілу першага жніўня 2000 года.

### 2. У пастановах змешчаны наступныя асноўныя моманты:

- допуск максімальна 20 000 замежных спецыялістаў у галіне камп'ютарных тэхналогіяў на працягу трох гадоў пасля ўваходжання ў сілу гэтых пастановаў;

- спецыялістамі ў свеце дадзеных пастановаў лічацца, акрамя асобаў з закончанай вышэйшай адукацыяй у галіне інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогіяў, таксама спецыялісты ў галіне камп'ютарных тэхналогіяў, якія ўзгаднілі кантракт з працадаўцам, які прадугледжвае гадавы аклад не ніжэй як 100 000 нямецкіх марак брута;

- працаўладкаванне аднаго спецыяліста дазваляецца на тэрмін да пяці гадоў, на працягу гэтага часу можна мяняць месца работы;

- пры прадаўжэнні кантракту ў межах пяці гадоў, а таксама пры змене месца працы, новае вывучэнне сітуацыі на рынку працы не праводзіцца;

- для набору спецыялістаў за мяжой дапускаецца працаўладкаванне па прыватных каналах;

- у мэтах паскарэння працэдуры аддзелы па пытаннях працы абавязаныя пры наяўнасці ўсіх неабходных дакументаў на працягу тыдня гарантаваць выдачу дазволу на працу.

### 3. Працэдура выдачы візы,

якая ўваходзіць у кампетэнцыю прадстаўніцтваў за мяжой, з'яўляецца заключным этапам. Перад тым, як падаваць заяву на выдачу візы, спецыяліст у галіне камп'ютарных тэхналогіяў павінен атрымаць гарантыю дазволу на працу ад аддзелу па пытаннях працы і згоду Ведамства па справах іншаземцаў. Згода Ведамства па справах іншаземцаў таксама павінна быць, калі муж/жонка і непаўналетнія дзеці жадаюць ехаць разам. Калі члены сям'і едуць разам, то дадаткова патрабуецца пацверджанне наконт наяўнасці дастатковай жылплошчы для сям'і.

### 4. Федэральнае ведамства па пытаннях працы

з сярэдзіны чэрвеня 2000 года адкрыла **Біржу працаўладкавання** ў Інтэрнэце для спецыялістаў у галіне камп'ютарных тэхналогіяў. Прэтэндэнты могуць прадстаўляць там свае біяграфічныя дадзеныя і звесткі аб прафесіі. У Біржу будуць паступаць прапановы працоўных месцаў ад прадпрыемстваў, і такім чынам можна наладжваць непасрэдны кантакт (старонка ў Інтэрнэце: www.arbeitsamt.de).

**5.** Далей можна накіроўваць запыты праз **Цэнтральнае бюро па працаўладкаванні (ZAV)**, (месца знаходжання: Villemombler Stra e 76, 53123 Bonn). Можна звяртацца на адрас электроннай пошты Bonn-ZAV.IT-Experts@arbeitsamt.de альбо непасрэдна на прадпрыемства.

### 6. Дадатковая інфармацыя па гэтых пытаннях

змешчана ў **Брашуры Федэральнага міністэрства працы** «Праграма неадкладных мераў Федэральнага ўрада ў галіне камп'ютарных тэхналогіяў», якую можна заказаць альбо знайсці ў Інтэрнэце на старонцы www.bma.de. Апрача таго, на старонцы Федэральнага Міністэрства замежных справаў ёсць лінк да гэтай брашуры (праз «знешняя палітыка - міжнароднае права, консульская служба, віза - праграма для спецыялістаў у галіне камп'ютарных тэхналогіяў»). У брашуры таксама ёсць спіс неабходных дакументаў для прэтэндэнтаў на працоўныя месцы і працадаўцаў.

**Амбасада Фэдэратыўнай Рэспублікі Германія ў Менску**

# З жабракоў няма чаго ўзяць

**З 30 чэрвеня ўвайшоў у сілу ўказ Аляксандра Лукашэнкі № 364 «Аб неадкладных мерах па аздараўленню фінансавага стану юрыдычных асобаў ды індывідуальных прадпрымальнікаў».**

У адпаведнасці з ім прыпыняецца налічэнне пені «за несвоечасова ўнесеныя юрыдычнымі асобамі ды індывідуальнымі прадпрымальнікамі плацяжы ў бюджэт, у тым ліку ў мэтавыя бюджэтныя фонды, па стану на 1 ліпеня 2000 года». Сума ўжо налічанай пені не будзе спаганяцца ў бюджэт пры дзвюх умовах. Па-першае, калі юрыдычныя асобы і прыватныя прадпрымальнікі пагасяць існуючую на 1 ліпеня запазычанасць па плацяжах у бюджэт і пазабюджэтныя фонды да 1 снежня 2000 года штомесячна роўнымі долямі, і па-другое, калі яны не будуць мець запазычанасці па бягучых плацяжах у бюджэт па стану на першае чысло кожнага месяца. У выпадку невыканання гэтых умоваў пеня будзе спагнана ў поўным аб'ёме за ўвесь час пратэрміноўкі плацяжоў.

Згодна з указам, юрыдычным асобам ды індывідуальным прадпрымальнікам дадзена права «праводзіць дааценку вытворчых запасаў, якія спісваюцца на вытворчасць прадукцыі (работаў, паслуг) у справаздачным месяцы, да цэнаў максімальнай партыі паступлення ў натуральным выглядзе (у адзін з апошніх трох месяцаў, уключаючы справаздачны), сфармаваных у адпаведнасці з заканадаўствам». Пры гэтым сумы дааценкі павінны быць аднесены на папаўненне ўласных абаротных сродкаў і адлюстраваны ў бухгалтарскім уліку і справаздачнасці на першае чысло месяца, які ідзе за справаздачным. Ім таксама дадзена права праводзіць дааценку вытворчых запасаў, набытых за замежную валюту, на суму розніцы паміж афіцыйным курсам Нацбанка на дату правядзення пераацэнкі і дату іх апрыходавання. Сума дааценкі, якая знаходзіцца ў межах існуючай рэшты па курсавых розніцах ад пераацэнкі крэдыторскай запазычанасці па вытворчых запасах, павінна быць аднесена на памяншэнне гэтай рэшты, а перавышаючая існуючую рэшту - на папаўненне ўласных абаротных сродкаў.

**Алег Сакалоў**

# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




### ПРАДАЮ

Пральную машыну «Волна-2 МВ» (б/у), а таксама АОН «Веф-ТА-12». Тэл. 73-00-00 (аб. 95352).

Халадзільнік «Снайге-15Е», б/у, а таксама шыны і лабавое шкло ад «Масквіча-2140». Тэл. 44-39-70.

Масквіч-412 па запчастках (б/у); шкло лабавое і задняе; дзверцы ў зборы, задні мост, салон, кузаў, рулявую калонку ды інш. Тэл. 76-53-11.

Капот да аўтамабіля «Форд-Сіера», танна; тэлевізар «Электрон», вельмі танна. Тэл. 2-65-60.

Лічыльнікі гарачай і халоднай вады (вытв. Уладзімірскага завода «Точмаш») у камплекце з фільтрамі і вентылямі. Тэл. 72-29-38 (пасля 17.00).

Фартэпіяна «Беларусь» у добрым стане, новую пральную машыну «Мара». Тэл. 5-11-03.

Піяніна «Беларусь», б/у; паляўнічыя боты (памер 46), б/у; новую эл.сакаварку. Тэл. 39-06-02.

TV-антэны, карнізы вытворчасці Польшчы, гімнастычную (шведскую) лесвіцу. Танна. Магчыма дастаўка. Тэл. 6-99-43 (пасля 15.00).

Дробную бульбу. Тэл. 44-69-03.

Аддам кацянятаў у добрыя рукі. Тэл. 6-07-61.

Дачу ў в.Жылічы, побач - бярозавы гай, рэчка Нёман. Тэл. 44-39-53.

Складны ровар; два ложкі ад спальнага гарнітура, б/у; дыпламат; папку для паперы; жалюзі з трыснягу. Тэл. 39-00-49.

Фаеркі і пераключальнікі да электраплітаў. Тэл. 2-94-94.

Эпілятар «Filips Satinell». Тэл. 73-00-00 (аб.95352, Алене).

Беларускія кнігі: Якуб Колас «Збор твораў» у 14-ці тамах; Іван Шамякін «Збор твораў» у 6-ці тамах; Васіль Быкаў «Збор твораў» у 4-х тамах; Іван Навуменка «Збор твораў» у 6-ці тамах ды інш. Дасылаць паштоўкі і звяртацца па спіс астатніх кніг (ад Вас канверт са зваротным адрасам) да А.В.Копаць на адрас: 246024, г.Гомель, вул.Свярдлова,56, альбо тэлефанаваць у Гомель на нумар 3-16-39 (пасля 19.00).

Аддам кацянятаў у добрыя рукі. Тэл. 31-77-12.

Масквіч-2140 па запчастках, на хаду. Тэл. 99-56-12 (запрасіць Аркадзя).

Двюхпакаёвую кватэру старой планіроўкі. Кошт - 7000 у.а. Тэл. 33-11-80.

### КУПЛЮ

Дачны надзел, плітку для падлогі. Тэл. 6-46-32.

Факсімільнае выданьне Статуту ВКЛ 1588 году, граматыку Б.Тарашкевіча, кнігу «Летапісы і хронікі» зь серыі «Беларускі кнігазбор». Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

Настольную лямпу, новую альбо б/у, абавязкова - у працоўным стане, невысокую, з выключальнікам, зручную ў карыстанні. Тэл. 6-69-65 (пасля 17.00).

Лінолеум (9 кв.м), дачу альбо дачны ўчастак. Тэл. 6-46-32.

Металічны абруч для занятkaў гімнастыкай, не абавязкова новы. Танна. Тэл. 72-37-14 (працоўны, з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выходных, запрасіць Святлану).

Фоташтатыў. Тэл. 33-59-87.

коўка на матрычным прынтары. Тэл. 76-55-16.

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па метадыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.XII.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

**Доктар С.Каляда**
Інтэнсіўная псіхатэрапія алкагалізму, залішняй вагі. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 23 сакавіка 2004 г., МЗ РБ.

Відэаздымка. Якасна выканаем работы па стварэнню відэафільма пра Ваш лёс, юбілей, прэзентацыі. Ліц. N613, выдадзеная МК да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Тэл. у Ваўкавыску 2-34-86.

Камп'ютарны набор, сканіраванне, раздрукоўка на лазерным прынтары. Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

### РОЗНАЕ

Мяняю паўдома на добраўпарадкаваную кватэру ці прадам драўляны дом у в.Касцевічы (2 км ад горада). Тэл. у Ваўкавыску 5-16-52.

Здыму 1-, 2-пакаёвую кватэру, коштам да 40 у.а. Тэл. (8-214) 36-1-05.

Шукаю працу на прадпрыемстве па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам. Гэта дасць усе падставы меркаваць, што абвесткі накont знаёмстваў належаць менавіта вам, шаноўныя чытачы, а не тым, хто жадае з вас пажартаваць.

### ЗНАЁМСТВЫ

З сур'ёзнымі намерамі пазнаёмлюся з жанчынай да 32 гадоў. Маю працу, жыллё, адукацыю. Пісаць: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, да запатрабавання, прад'яўніку вайсковага білета НБ N2646240.

Інтэлігентная, стройная бландзінка пазнаёміцца для сустрэчаў з надзейным мужчынам, які мае кватэру для сустрэчаў. Пра сябе: 40 гадоў, рост - 164 см. Матэрыяльна і жыллём забяспечана, але жыву не адна. Знак Задыяка - Рыбы. Творчая прафесія. Пісаць: 230024, г.Гродна, да запатрабавання, п/п КН 0196009.

Надзвычай энергічны, далікатны, імпазантны мужчына бальзакаўскага ўзросту, рост якога 176 см, жадае пазнаёміцца з прыемнай ва ўсіх адносінах жанчынай да 40 гадоў. Хатні адрас: 230026, г.Гродна-26, вуліца Томіна, 16-7066 (Віктар Дзмітрыевіч); пажадана захапіць з сабою пашпарт.

### ВІНШАВАННІ

Віншуем дарагога тату ***Генадзя Мікалаевіча Антоненку*** з Днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у працы і ўсяго найлепшага ў жыцці!

Дзіма і Алесь

### СПАЧУВАННІ

**Выказваем спачуванне сябрам Гарадзенскай раённай арганізацыі партыі БНФ і БНФ «Адраджэньне» Юрыю і Віктару Кохне з нагоды вялікага гора - заўчаснай смерці бацькі.**

**Раённая і абласная Рады Партыі БНФ і БНФ «Адраджэньне»**

## Рэдакцыя газеты ПАГОНЯ абвяшчае КОНКУРС на замяшчэнне пасады кіраўніка аддзела рэкламы і маркетынгу.

**Абавязковыя ўмовы:** амбітнасць, камунікабельнасць, досвед працы.

Даведкі па тэлефонах: 72-29-96, 72-37-14.

### ПАСЛУГІ

Рэпетытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

Сканіраванне фотаздымкаў (камп'ютарная апрацоўка), тэкстаў, распазнаванне, набор і раздрукоўка (на лазерным, струйным ды іншых прынтарах) на IBM PC (руск., англ.). Выраб ксеракопіяў у вялікай колькасці. Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

Рамонт каляровых тэлевізараў. Установка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліц. N1243, выдадзена МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

Набор тэкстаў на камп'ютары, сканіраванне, раздрукоўка...

Шукаю працу на прадпрыемстве па абіўцы мяккай мэблі. Тэл. 44-39-15.

Ахвотныя атрымаць новую кнігу Міколы Ермаловіча «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» дашліце замову, свой дакладны адрас і 2200 рублёў Алесю Міхайлавічу Сабаленку на адрас: 220131, г.Менск, п/с 268. Кнігу атрымаеце праз пошту. У Менску кнігу М.Ермаловіча заўжды можна набыць у сядзібе ТБМ, што па вуліцы Румянцава,13.

Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванню падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41 (у любы зручны для вас час).

Выстава аўдыё-відэакнігапрадукцыі працуе па новым адрасе: г.Гродна, вул. К.Маркса, 11, 2-і паверх. Чакаем вас кожны панядзелак і сераду з 17 да 20 гадзін.

## Дзевяць плюс

**Першыя дзевяць пытанняў з'яўляюцца своеасаблівым тэстам на ўзровень вашай эрудыцыі. Правільныя адказы на іх змешчаныя ніжэй. На дзесятае пытанне конкурсу трэба адказаць пісьмова на адрас рэдакцыі (на паштоўках ці канвертах пазначыць - «9+1»). Сярод лістоў ды паштовак з правільнымі адказамі будзе праведзена лёсаванне, якое і вызначыць, хто ж стане пераможцам і атрымае прыз ад рэдакцыі нашай газеты.**

**1. Вікінгі верылі, што богі...**
а) непахісныя і непаражальныя;
б) могуць састарэць, памерці;
в) ніколі не хварэюць.

**2. Вядома шмат каталіцкіх святых, якія валодалі здольнасцю да левітацыі, іх недзе...**
а) болей за 200;
б) каля 100;
в) менш як 200.

**3. У наш час так званы «дрэйф» мацерыкоў усё яшчэ працягваецца. Паўночная Амерыка і Еўропа аддаляюцца адна ад другой з хуткасцю, прыкладна роўнай той, з якой у чалавека растуць...**
а) валасы;
б) пазногці;
в) зубы.

**4. Існуюць кажаны, размах крылаў якіх дасягае...**
а) 3 метраў;
б) 1,5 метра;
в) 2 метраў.

**5. Найбольш жахлівы затор на дарозе ўтварыўся ў 1980 годзе ва Францыі. Працягласць яго была...**
а) 110 міляў;
б) 123 кіламетры;
в) 176 кіламетраў.

**6. Абасы - гэта...**
а) дынастыя арабскіх халіфаў;
б) злыя духі ў якуцкай міфалогіі;
в) горнакліматычны курорт у Грузіі.

**7. Панда, якога прынята называць бамбукавым мядзведзем, на самой справе належыць да сямейства...**
а) янотавых;
б) кашэчых;
в) куньіх.

**8. Жыхары Масквы далі іранічную мянушку «Піва няма!» помніку...**
а) Вацлаву Вараўскому;
б) Карлу Марксу;
в) Пятру І.

**9. Барацьба дзюдо была ўключана ў алімпійскую праграму ў ...**
а) 1964 годзе;
б) 1968 годзе;
в) 1972 годзе.

**Правільныя адказы:** 1б, 2а, 3б, 4в, 5в, 6б, 7а, 8б, 9а

**Дзевяць** правільных адказаў - выдатна, **7-8** - вельмі добра, **5-6** - добра, **3-4** - здавальняюча, **менш як 3** - у Вас ёсць над чым папрацаваць.

**10. Шмат хто з уладальнікаў модных рэстаранаў адразу скеміў, што на «жарсцях па «Тытаніку» можна нядрэнна зарабіць. Так, у меню аднаго з рэстаранаў японскага горада Асака ёсць нават спецыяльная... (паспрабуйце працягнуць выказванне, пажадана падрабязней).**

**Адказ на дзесятае пытанне папярэдняга конкурсу (гл. ПАГОНЮ N15 ад 4 траўня г.г.).** У старажытныя часіны спадня кашуля доўгі час была прадметам раскошы. У многіх дамаў была толькі адна сарочка. І хаця гігіена ў сярэднія вякі была развіта слаба, усё-ткі часам жанчыне даводзілася праводзіць доўгі час у ложку, пакуль вымытая кашуля сохла. Віншуем пераможцу конкурсу **У.Фацееву.** Дасылайце свае адказы - і вам абавязкова ўсміхнецца Фартуна!

## Анекдоты

Бацька сварыцца з сынам:
- Ды я ў твае гады, дармаед ты гэткі, па начах вагоны разгружаў!.. Пакуль не зламілі...

***

Муж доўга спрачаецца з жонкай. Зусім замучаны, ён кажа:
- Добра, няхай будзе па-твойму!
- Позна, я ўжо перадумала!

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

24 Імя і прозвішча ____________

Адрас (тэлефон) ____________

Рубрыка ____________

Тэкст ____________

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11

## Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археалагамі». Авальная зала. Выстава - «Медны посуд XVIII - пачатак XX стагоддзяў». Сенатарская зала. Дзейнічае экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў».

**Галерэя «У Майстра»** (вул. Кірава, 14). Сумесная выстава мастакоў.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Выстава мастакоўудзельнікаў III Усебеларускага фестываля нацыянальных культураў «Фэст-2000».

**Музей Гісторыі Гарадніцы** (вул. Ажэшкі, 37). Выстава батыку вучняў восьмага класа сярэдняй школы N31.

**Дызайн-галерэя «Раскоша»** (вул. Ажэшкі, 39а). Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Дзейнічае выстава, прысвечаная Францішку Багушэвічу. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Лядовы палац спорту.** 6 ліпеня адбудзецца канцэрт гурта «Hi-Fi». Пачатак канцэрта ў 20.00.

**Драмтэатр.** З 6 па 10 ліпеня - гастролі Гомельскага абласнога драматычнага тэатра ў Гродне. 8, 9, 10 ліпеня - «Суцяшальнік удоваў», «Кот у ботах». 12 ліпеня - праграма «Вино-шоу-кур» з удзелам Уладзіміра Вінакура і артыстаў тэатра. Пачатак - у 19.00.

**Моладзевыя дыскатэкі**

**Кінатэатр імя Пушкіна** - з 22.00 да 24.00 (у пятніцу), з 22.00 да 01.00 (у суботу), з 22.00 да 24.00 (у нядзелю).

**Кінатэатр «Усход»** - з 22.00 да 24.00 (у пятніцу), з 22.00 да 01.00 (у суботу), з 22.00 да 24.00 (у нядзелю). Штодня працуе пракат відэакасетаў, більярд, камп'ютарныя гульні.

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00 (акрамя панядзелка і аўторка). Працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Калізей-2000.** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальная і стрыпцізшоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.



# Святкуем Купалле!

**Калі кульмінацыяй зімовых падзеяў былі ў народным жыцці Каляды, то адпаведным па значнасці святам улетку з'яўляецца Купалле (царкоўнае свята Раство Іаана Хрысціцеля), якое святкуюць у ноч з 6 на 7 ліпеня.**

Спрадвеку Купалле з'яўлялася святам ў гонар летняга сонцастаяння, росквіту зямлі і ўсяго, што яна нараджае і гадуе. Свята гэтае мае вельмі старадаўняе паходжанне. Звесткі пра яго святкаванне сустракаюцца ў пісьмовых крыніцах XII стагоддзя. Тады святкавалася Купалле ў самую кароткую летнюю ноч - з 23 на 24 чэрвеня. Але з прыняццем хрысціянства і збліжэннем язычніцкага свята са святам у гонар Івана-Хрысціцеля дата яго правядзення была перанесена на ноч з 6 на 7 ліпеня.

Калісьці напярэдадні гэтага маляўнічага свята дзяўчаты збіралі кветкі на вяночкі, рабілі запасы лекавых раслінаў. Лічылася, што ў зёлках, сабраных днём, перад купальскай ноччу, была магічная сіла і што ўвесь год яны будуць засцярогай ад рознай немачы.

Асаблівую ўрачыстасць святу надавала купальскае вогнішча, якое павінна было гарэць усю ноч. Дзяўчаты і хлопцы з усёй вёскі сцягвалі розную старызну (атопкі, абноскі, стары непрыдатны посуд, палазы, якія ад'ездзілі свой век) і вывозілі ўсё гэта за сяло, дзе меркавалася гулянне. Туды ж увечары накіроўваліся вяскоўцы з купальскімі песнямі. Агонь для вогнішча здабывалі ад трэння драўляных брускоў. Як сімвал сонца, уздымалі запаленае кола, каб нікога не абмінула шчасце. Полымя купальскага вогнішча надзялялася ачышчальнай сілай, хлопцы і дзяўчаты скакалі праз яго. Моладзь забаўлялася гульнямі, варажбою, вадзіла карагоды, спявала песні.

*Ішла паненка цераз бор,*
*На ёй сукенка ў дзевяць пол,*
*Стала тая сукенка шамрэці,*
*Зялёна дуброва шумеці.*
*Стала наша Купала гарэці,*
*Ішлі малодкі тушыці,*
*Неслі ў чэпчыку вадзіцы...*

З Купаллем звязана адна з самых рамантычных легендаў беларускага народа. Лічылася, што прырода ў ноч на Івана Купалу настолькі ўсемагутная, што зацвітае нават папараць, бо на яе сыходзіць агонь Перуна. Папараць-кветка ярка ўспыхвае, цвіце апоўначы некалькі імгненняў, і трэба паспець ухапіць яе. І «хто гэту кветку здабудзе, будзе мець усё, чаго толькі яго душа пажадае», будзе «ведаць усё, што на свеце робіцца».

Недасягальнасць Папараць-кветкі ў беднага чалавека атаясамлялася з багаццем, з закапанымі немаведама кім і калі скарбамі, якія ў купальскую ноч выходзяць на паверхню прасушыцца.

> **Купалле**
>
> *Варажбіт Купала ўночы*
> *З летуценнасці дзявочай*
> *Запаліў агонь чакання*
> *І вянок сплёў спадзявання.*
> *Раніцою ледзь пакрочыў.*
> *Заляцанні і пяшчоту,*
> *Адзіноцтва і гаркоту*
> *Агарнуў журбой употай*
> *Ды і ў песні карагоднай*
> *Прыхаваў іх чыстай нотай.*
>
> **Ігар Лосік**

Скарбы, якія ахоўваюцца нячысцікамі, могуць патрапіць у рукі толькі ўладальніку Папараць-кветкі. У паданнях расказвалася, што ў ноч на Яна расліны размаўляюць між сабою, дрэвы пераходзяць з месца на месца, а рэкі свецяцца прывідным святлом.

Сярод цудаў купальскай ночы называлі разгул розных чараўнікоў і вядзьмарак, якія ўсяляк шкодзяць людзям - заязджваюць коней і адбіраюць малако ў кароваў. Каб не падпусціць нячыстую сілу, над парогамі хлявоў і хатаў вешалі прадметы, якімі ведзьмакі маглі парэзацца, пакалоцца, апячыся: сярпы, іголкі, крапіву. На страх нячысцікам вешалі і забітых сарокаў.

Вельмі пашыранай на купальскім святе была варажба. Дзяўчаты і хлопцы загадвалі, што чакае іх у будучыні. Па кінутых на ваду папарна вянках сачылі, сыдуцца яны ці, наадварот, разыдуцца; мо чый вянок не будзе падхоплены плынню, а прыстане ці нават патоне. Вельмі важным лічылася прызнанне ў купальскую ноч у каханні. Сабраныя на Яна галінкі купалкі з нераспушчанымі кветкамі прыносілі ў хату, утыкалі за абразы, у шчыліны між бярвёнамі ці за бэлькі. Калі кветкі распускаліся, гэта значыла, што дзяўчына выйдзе замуж альбо задуманае ёю здзейсніцца. А то яшчэ варажылі гэтак: ля дарогі знаходзілі трыпутнік («подорожник») і прыкмячалі адзін ліст, апоўначы трэба было сарваць яго, кажучы тройчы без аддышкі:

*Трыпутнік, трыпутнік,*
*Ты сядзіш пры дарозе,*
*Ты бачыш старога, малога,*
*Ці бачыш майго мілога?*

Гэты ліст прыносілі дадому, клалі пад падушку і спадзяваліся, што прысніцца каханы чалавек. Пад раніцу моладзь купалася ў рацэ (праўда, на Смаргоншчыне на Яна забаранялася купацца, каб не замуціць ваду ў дзень нараджэння Іаана Хрысціцеля), качалася па купальскай расе, сустракала ўзыход сонца, у гонар якога раней і святкавалася Купалле.

Казалі, што на купальскім досвітку сонца «іграе» - дваіцца, траіцца і пераліваецца рознымі колерамі. Купалле, як вынікае з песень, пазначана было магутным прыродным рухам і адначасова рухам чалавечай працы: «Святы Іван колас наліваець,..пчолы садзіць, коску правіць»; «Святы Ян папар ярэць, барануець»; «Святы Ян - божы каваль; косы круціць, сярпы зубіць».

Такім чынам, Купалле дэманстравала цесную знітаванасць чалавека з навакольнаю прыродаю. Гэтая духоўная спадчына, што дайшла да нашых дзён з сівой даўніны, застаецца неад'емнай часткай культуры нашага народа.

Дзе-нідзе і сёння палаюць вогнішчы, як і сотні гадоў таму, як яшчэ адзін напамінак пра тое, што пакуль жыве народная памяць, жыве і повязь пакаленняў.

**Алесь Ліпень, Наталля Ламановіч**

# Эўра-2000 скрозь беларускую прызму

**Перамогай каманды Францыі скончыўся ў мінулую нядзелю дзясяты чэмпіянат Эўропы па футболе. Разам з кароткім аналізам яго вынікаў паспрабуем зірнуць на Эўра-2000 вачыма заўзятараў беларускага футболу.**

Французы задоўга да пачатку чэмпіянату разглядаліся спэцыялістамі як найбольш верагодныя фаварыты турніру. Ды ці можна было б інакш казаць пра каманду, у складзе якой на чэмпіянат прыехала аж 18 пераможцаў апошняга першынства сьвету!

Аніводнага разу «мушкецёры» Ражэ Лемэра не далі нагоды засумнявацца ў тым, што яны - лепшыя ў Эўропе. Толькі адной камандзе - гаспадарам турніру галяндцам - удалося адабраць ачкі ў фаварытаў турніру (3:2). Але здарылася гэта ў апошні дзень групавога турніру, калі французы ўжо забясьпечылі сабе выхад у чвэрцьфінал і выставілі на поле другі склад.

У чвэрцьфінале чэмпіёны сьвету адолелі гішпанцаў 2:0 і патрапілі на адкрыцьцё чэмпіянату - партугальцаў. Драматычная гульня скончылася «залатым» голам Зідана за некалькі хвілінаў да сканчэньня дадатковага часу. Нягледзячы на спрэчнасьць рэалізаванага французамі пэнальці, гэты гол стаў лягічным вынікам той вялікай перавагі, якую мела каманда Лемэра на працягу ўсёй гульні.

Надзвычай драматычным атрымаўся і фінал чэмпіяната. Толькі ў дададзены арбітрам час нападнік французаў Вільтор параўняў лік у сустрэчы з італійцамі. А ў дадатковы час Трэзэгэ «залатым» голам аформіў тое, што не выклікала аніякіх сумневаў - французы сёньня наймацнейшыя ў Эўропе.

Акрамя новых чэмпіёнаў добрых словаў заслужылі і яшчэ шэраг камандаў. Толькі з-за фатальнага нешанцаваньня не патрапілі ў фінал галяндцы, якія пасьля разгрому ў чвэрцьфінале югаславаў 6:1 па пэнальці прайгралі італійцам, не здолеўшы забіць тым два пэнальці ў асноўны час і тры ў сэрыі адзінаццацімэтровых udараў!

Эўра-2000 дало глебу і для разважаньняў пра пэрспэктывы беларускага футболу. Парадаксальна, але найлепшых вынікаў у адборавым турніры да Эўра-2000 нашая каманда дамаглася ў сустрэчах з будучымі ўдзельнікамі фінальнай часткі - італійцамі (дзьве нічыі) і датчанамі (нічыя на сваім полі). Праз два месяцы нацыянальнай камандзе давядзецца браць старт у адборавым турніры да першынства сьвету 2002 году, дзе адным з нашых супернікаў тут будуць нарвэжцы. Гэта азначае, што і зь імі пры жаданьні можна згуляць ня горш. Разам з тым, калі да сваіх традыцыйных казыроў «вікінгі» дададуць яшчэ крыху імправізацыі, то змагацца зь імі будзе надзвычай цяжка.

Разам з скандынавамі кампанію беларусам складуць палякі, украінцы, валійцы і армяне. Першыя мелі шанец патрапіць на Эўра-2000, але саступілі крыху швэдам і ангельцам, якія зусім ня ўразілі ў Бэльгіі і Галяндыі. Сёньня ў палякаў скончыўся працэс зьмены пакаленьняў, і гэты склад каманды гатовы да таго, каб вярнуць славу польскаму футболу.

Нашыя паўднёвыя суседзі ўвогуле былі блізкія да паездкі ў Бэльгію і Галяндыю, але саступілі славенцам у кваліфікацыйных матчах (1:2 і 1:1). Галоўныя казыры ўкраінцаў - нападнікі Шаўчэнка і Раброў, а таксама мэтар Лабаноўскі. Цікава, ці адбудзецца яго новая дуэль з Эдуардам Малафеевым, які бярэцца за беларускую дружыну?

Што тычыцца валійцаў, то гэтага суперніка беларусы ведаюць добра, бо гулялі (і двойчы саступілі) зь ім у апошнім адборавым турніры. Наўрад ці валійцы сталі за год мацнейшымі, але ж і мы ну як мінімум не дадалі ў клясе...

Што да армянскай каманды, то ёй, як і нашай, наўрад ці давядзецца весьці за сабой пэлетон. Разам з тым, прадстаўнікі ўсіх камандаў з нашай групы заяўляюць пра тое, што будуць змагацца за перамогу ў адборавым турніры. Што ж, ужо ўвосень давядзецца свае заявы пацьвярджаць гульнёй.

Ну а да восені заўзятарам можна жыць успамінамі пра Эўра-2000, які падараваў нам тры тыдні цудоўнага Футболу.

**Вітаўт Руднік**

1. Летні гужавы транспартны сродак. 2. Архітэктурная дэталь у форме спіралепадобнага завітка, якой афармлены франтон будынка калегіума езуітаў у Пінску. 3. Дзяржаўны дзеяч БССР, мемарыяльная дошка якому ўстаноўлена ў Менску. 4. Бандарны выраб. 5. Зробленае з пераплеценых дробных металічных кольцаў адзенне, якім карысталіся ў старажытнасці воіны для засцярогі ад удараў халоднай зброяй. 6. Традыцыйная нагрудная частка жаночага адзення беларусаў. 7. Беларускі савецкі архітэктар, адзін з аўтараў праекта мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой». 8. Рыбалоўная прылада.




**Адказы на галаваломку, змешчаную ў N23 (470):**

1. Кломля. 2. Стрэмя. 3. Кашуля. 4. Балея. 5. Студня. 6. Грыўня. 7. Скобля.

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Болей увагі надайце свайму іміджу - шмат будзе залежаць ад таго, якое ўражанне застанецца ад Вашага візіту да знаёмых.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Усе дзеянні, скіраваныя на ўвядзенне ў зман блізкага чалавека, будуць пазбаўленыя ўсялякага сэнсу і толькі пашкодзяць.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Не рэагуйце так востра на крытыку з боку сваякоў. Спрабуйце кантраляваць свае пачуцці і ўчынкі.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Паспрабуйце пазбавіцца ад паўсядзённай мітусні і дрэннага настрою. Вакол адбываецца столькі цікавых падзеяў, у якіх няблага было б паўдзельнічаць.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Настройцеся на складаны перыяд - усе рашэнні будуць давацца Вам даволі цяжка. Скарыстайцеся падтрымкай саюзнікаў.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Грошай ізноў, як заўсёды, будзе недастаткова, але не ўсё адразу. Галоўнае - не здавацца і не засмучацца.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Тыдзень абяцае значныя змены на любоўным фронце. Надышоў час адмовіцца ад шкодных звычак.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Усур'ёз заняцца справамі Вам будзе складана - занадта шмат фактаў асабістага плану будуць адцягваць Вашу ўвагу.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Будзьце ўважлівей да сваіх блізкіх: мажліва рэзкае ахаладжанне ўзаемаадносінаў практычна без аніякіх прычынаў.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Задумайцеся над тым, чаму толькі лічаныя сябры падзяляюць Вашыя меркаванні і перакананні.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Варта паспрабаваць скарыстаць усе магчымасці, што з'явяцца ў пятніцу вечарам.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Не надавайце вялікага значэння падзеям мінулага тыдня. Пазбягайце расчараванняў асабістага характару.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 2 183 Наклад 7 110
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 5.07.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей